











АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

19 красавіка 2000 года
Цана 75 рублёў

№ 16 (2678)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

**ВЫБАРЫ**

## АДПАВЕДНАСЦЬ ВЫБАРАЎ ЗАКАНАДАЎСТВУ – ГАЛОЎНАЕ ПАТРАБАВАННЕ ЦЭНТРВЫБАРКАМА

● Алена СПАСЮК.

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына і старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны сустрэліся з рэдактарамі рэспубліканскіх выданняў, журналістамі, каб акрэсліць правілы паводзін СМІ падчас выбарчай кампаніі.

На гэты перыяд СМІ па статусу прыраўноўваюцца да назіральнікаў ад палітычных партый. Гэта значыць, што журналісты могуць знаходзіцца на выбарчых участках, кантраляваць іх працу, рэагаваць на ўсе парушэнні заканадаўства.

Цэнтрвыбаркам абавязаў вядучыя рэспубліканскія газеты прадаставіць свае плошчы для апублікавання праграм кандыдатаў у дэпутаты. Выключэнне зроблена для газеты Адміністрацыі Прэзідэнта "Советская Белоруссия", якая мае самы вялікі тыраж у краіне. Праграмы будуць друкавацца па меры паступлення. Такім чынам Цэнтрвыбаркам спадзяецца пазбегнуць нараканняў грамадскасці з-за неаднолькавых умоў для кандыдатаў у дэпутаты. Многія з іх аддадуць перавагу мясцовай прэсе. Міхаіл Падгайны выказаў заклапочанасць, што абавязковая публікацыя праграм пагоршыць стан мясцовага друку: газеты не будуць купляць.

Недзяржаўныя выданні самі вырашаюць, друкаваць ці не выбарчыя праграмы. Дыктаваць ім нельга, бо гэта было б умяшаннем у прыватную ўласнасць.

Што тычыцца радыё, то кандыдаты ў дэпутаты самі вызначаць, на якой з дзяржаўных станцый выступаць.

Паколькі Беларускае тэлебачанне не зможа даць слова ўсім кандыдатам, будуць выкарыстоўвацца абласныя каналы. Кандыдаты ў дэпутаты ад Мінскай вобласці (Мінск не мае мясцовага дзяржаўнага тэлеканала) выступяць на Беларускім тэлебачанні. Цэнтрвыбаркам вызначае час для кожнай акруговай камісіі. Далей жараб'ёўка вырашыць, калі, хто з'явіцца на экране.

Асаблівасць беларускай сістэмы выбараў у тым, што грашовыя фонды кандыдатаў у дэпутаты складаюцца толькі з вызначанай і прадастаўленай дзяржбюджэтам сумы. Выкарыстоўваць свае або акумуляваць сродкі фізічных ці юрыдычных асоб для правядзення выбарчай кампаніі не дазваляецца. Такім чынам, плата за рэкламу ў незалежных і дзяржаўных СМІ не прадугледжваецца.

У Расіі, напрыклад, кожны з кандыдатаў у дэпутаты Думы меў асабісты фонд. Дзяржаўныя СМІ друкавалі праграмы бясплатна, недзяржаўныя зараблялі на гэтым грошы.

Лідзія Ярмошына лічыць, што беларуская сістэма выбараў ураўноўвае шансы стаць дэпутатам "заможных" і "бедных" кандыдатаў. Але не менш важна, каб прадстаўнікі розных палітычных перакананняў таксама мелі аднолькавыя магчымасці. У сувязі з гэтым старшыня Цэнтрвыбаркама паведаміла пра каментарыі да выбараў у СНД, зробленыя назіральнікамі АБСЕ. Так, у Кіргізіі падчас выбараў у галоўны заканадаўчы орган 97 працэнтаў эфірнага часу дзяржаўнага тэлебачання было аддадзена прапрэзідэнцкай партыі. Назіралася адкрытая дыскрэдытацыя апазіцыі.

Лідзія Ярмошына падкрэсліла, што на Беларусі выбары павінны прайсці ў строгай адпаведнасці з заканадаўствам. Сродкам масавай інфармацыі належыць працаваць таксама ў рамках закона, максімальна забяспечваючы кандыдатам у дэпутаты роўнасць умоў.

**КАПРЫЗЫ СТЫХІІ**



Колькасць ападкаў, якія выпалі за першую дэкаду красавіка, склала на большай частцы тэрыторыі Беларусі 1,0—1,5 месячнай нормы. У выніку аднавіўся пад'ём узроўню вады ў рэках. У прыватнасці, на Прыпяці і яе прытоках глыбіня затаплення поймы складае ў асноўным 15—36 сантыметраў, найбольшая (54—64 сантыметры) адзначаецца паранейшаму ў Лельчыцкім, Мазырскім і Жыткавіцкім раёнах.

Увогуле ж характэрнай асаблівасцю гідралагічнага рэжыму рэк Беларусі сёлета з'явілася неадначасовае развіццё веснавых працэсаў. Так, рэкі захаду і поўдня краіны (басейны Прыпяці, Нёмана, Заходняга Буга) "ачысціліся" ўжо ў лютым (на 35—40 дзён раней звычайных тэрмінаў), і ўжо да пачатку сакавіка тут прайшлі максімумы паводкі.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

**ВІНШУЕМ!**

## БАРЫС Уладзіміравіч КІТ



Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" правялі вечарыну, прысвечаную 90-годдзю з дня нараджэння Барыса Кіта — нашага славутага суайчынніка, ганаровага прафесара Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, ганаровага грамадзяніна Навагрудка, выдатнага амерыканскага і нямецкага вучонага ў галіне касманаўтыкі, акадэміка Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі, сябра многіх еўрапейскіх навуковых таварыстваў. На вечарыне, якая адбылася ў дзень нараджэння юбіляра, былыя вучні Кіта, яго сябры і знаёмыя падзяліліся ўражаннямі аб гэтай неардынарнай асобе. Прысутных пачулі беларускія народныя песні ў выкананні Тацяны Мархель. Падчас сяброўскай сустрэчы прагучалі развагі пра лёс знакамітага беларуса і іншых замежных суродзічаў, якія нямала зрабілі, каб Беларусь ведалі ў свеце.

**Галіна СЯРГЕЕВА.**

**ПРЭЗЕНТАЦЫЯ**

## У ВЫЙГРЫШЫ — УСЕ

У мінскім дыска-клубе "ЮЛА" тэлевізійнае вытворчае аб'яднанне "Віцязь" з Віцебска правяло розыгрыш першай латарэі. Па ўмовах удзельнічаць у ёй мог той, хто набыў "Віцязь" у перыяд з 31 ліпеня па 31 снежня 1999 года. На адрас тэлезавода прыйшло больш за 134 тысячы лістоў з усёй краіны.

Як адзначаў адзін з членаў розыгрышнай камісіі, жадаючых прыняць удзел у гэтым мерапрыемстве магло быць значна больш. У Беларусі кожны месяц прадаецца пяць тысяч тэлевізараў гэтай маркі. Што ж, як кажуць у народзе, пакупнікі, мабыць, яшчэ не рассмакаваліся, бо галоўным прызам латарэі стаў аўтамабіль ВАЗ-2105 ("Жыгулі").

У гэты дзень у дыска-клубе сабралася шмат мінчан, удальнікаў "Віцязя". Першы тур выявіў дзесяць білетаў, якія ў далейшым і спрачаліся ў шанцаванні. На жаль, сярод прысутных ніхто не аказаўся ў выйгрышы. Уладальнікамі прызоў сталі жыхары Магілёўскай, Мінскай і Віцебскай абласцей. А "Жыгулі" дасталіся магілёўчаніну. Аднак задаволенымі гэтым забаўляльным мерапрыемствам засталіся ўсе прысутныя. У тым ліку і выступленнем вядомага беларускага спевака, тытулаванага спартсмена, у недалёкім мінулым неадназоавага чэмпіёна Беларусі па кік-боксінгу Альберта Скарахода і яго тэатра спорту і песні "Дэльта-шоу".

Як адзначылі кіраўнікі аб'яднання "Віцязь", латарэя — гэта свайго роду рэкламная кампанія. І яна будзе прадоўжана.

**Сяргей САБАДАШ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**





**АНОНС**

### СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКІЯ ІКОНЫ — У ІСПАНІІ

У рамках культурнага абмену падарожнічаюць па гарадах Іспаніі старажытнабеларускія іконы са збораў Нацыянальнага мастацкага музея. У канцы сакавіка выстава гэтых помнікаў даўніны адкрылася ў горадзе Жэрона. Затым на працягу некалькіх месяцаў яе шлях пройдзе па гарадах Сабадэль, Самора і завершыцца 1 верасня ў горадзе Касерас. Усяго ў экспазіцыі прадстаўлены 31 выдатны помнік старажытнага беларускага мастацтва. Выстава стала своеасаблівым адказам на дадзеную Іспаніяй магчымасць убачыць творы знакамітага Гоі ў Беларусі.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ СЯРОД СЯБРОЎ



# ЯДНАЦЬ ПРАЗ ЧАС І АДЛЕГЛАСЦІ

У пятніцу сёмага красавіка ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі ў Мінску адбылася своеасаблівая ўрачыстая "пятучка" рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" з нагоды яе 45-годдзя. За "круглым сталом" сабраліся не толькі супрацоўнікі штотыднёвіка, заснавальнікі выдання — прадстаўнікі Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ на чале са старшынёй А. Білыкам, старшыні Таварыстваў дружбы і "Радзіма" А. Ваніцкі і У. Мялешка, але і іншыя сапраўдныя сябры выдання, людзі, якія дапамагаюць газеце выходзіць у свет.

У той вечар прагучала шмат віншаванняў, добразычлівых заўваг, цікавых прапаноў. Вядомы даследчык беларускай мінуўшчыны, даўні аўтар газеты Адам Мальдзіс расказаў прысутным даволі інтрыгуючую гісторыю, як ён шукаў самыя першыя нумары "Голасу Радзімы" (на той час "За вяртанне на Радзіму") і не знайшоў *іх*. А таму спадар Мальдзіс прапанаваў звярнуцца да самых першых чытачоў газеты: магчыма ў кагосьці захаваліся тыя рарытэтныя нумары? Адгукніцеся, дашліце, калі не саму газету, то хаця б ксеракопію.

Падчас размовы было вельмі прыемна пачуць, што артыкулы з "Голасу Радзімы" выкарыстоўваюцца навукоўцамі ў іх даследчыцкай працы, захоўваюцца ў архівах як крыніца цікавай, каштоўнай інфармацыі. І гэта не дзіўна. Сярод аўтараў выдання заўсёды былі найбольш яркія, выбітныя навукоўцы-даследчыкі: Уладзімір Конан, Вячаслаў Шалькевіч, Адам Мальдзіс, Леанід Лыч, Генадзь Каханоўскі, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Ермаловіч...

Прадстаўнік Міністэрства замежных спраў Беларусі Яўген Вайтовіч расказаў, з якой цікавасцю ставіліся да газеты літоўскія беларусы (Яўген Канстанцінавіч да нядаўняга часу працаваў паслом нашай краіны ў Літве), колькі эмоцый выклікалі некаторыя публікацыі.

Паэтэса Раіса Баравікова — таксама даўні аўтар "Голасу Радзімы" — з цеплынёй згадвала сумесныя плённае супрацоўніцтва з нашай газетай.

Сорак пяць год — пакуль не юбілей, але ж добрая прычына правесці "рэвізію" зробленага, вылучыць накірункі на будучыню. І перакананца ў непахіснасці галоўнай мэты і задачы: праз час і адлегласці яднаць людзей паміж сабой і з Радзімай.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**



*Адам* МАЛЬДЗІС.



*Віталь* НАЗАРАНКА.



*Яўген* ВАЙТОВІЧ.



*Міхась* КОШАЛЕЎ.

АРМІЯ

# ВАЙСКОВАЯ СЛУЖБА: НА ЎСЕ ПЫТАННІ ПАВІННЫ БЫЦЬ АДКАЗЫ

**"Сацыяльны настрой ваеннаслужачых. Праблемы маральных адносін у сілавых структурах". Пад такой назвай у грамадскім прэс-цэнтры прайшло пасяджэнне "круглага стала".**

Калі дзяржава ўтрымлівае армію, апошняя абавязана быць баяздольнай. Такой яе робяць людзі — салдаты і афіцэры. Па меркаванню намесніка міністра ўнутраных спраў, камандуючага войскамі МУС Беларусі Юрыя Жадобіна, спачатку ў войсках неабходна развіваць трывалую сацыяльную базу, тады можна і больш патрабаваць ад ваеннаслужачых. Пакуль жа напружанасць сярод афіцэраў у значнай ступені звязана з жыллёвымі праблемамі. Спынена крэдытаванне кааператыўнага будаўніцтва. Жыллё — асноўны крытэрый пры прыняцці службовых прапаноў. Афіцэры не едуць у іншыя гарады, нават на вышэйшую пасаду, калі там не гарантуюць кватэру. У такой сітуацыі спадзяванні афіцэраў звязаны з праграмай "Службовае жыллё", скіраванай на забеспячэнне хаця б часовым жыллём.

Уладзімір Серагітан, начальнік упраўлення выхаваўчай работы і інфармацыі Міністэрства абароны, звярнуў увагу на пенсійнае забеспячэнне ваеннаслужачых, якое патрабуе перагляду. Акрамя таго, згодна з новым Выбарчым кодэксам, ваеннаслужачыя, якія па Канстытуцыі не маюць права быць членамі той ці іншай палітычнай партыі, а вайсковыя падраздзяленні не лічацца працоўнымі калектывамі, могуць вылучаць кандыдатаў у дэпутаты толькі праз збор подпісаў. Гэта стварае шэраг праблем.

Удзельнікі "круглага стала" пагадзіліся, што ад асобы афіцэра ў першую чаргу залежыць атмасфера, якая пануе сярод салдат тэрміновай службы. І трэба аддаць належнае, яна з кожным годам паляпшаецца. Уладзімір Макараў, начальнік лабараторыі



СПАРТЫЎНЫЯ НАВІНЫ АД Каці МАЗАКОВАЙ

**НАПЯРЭДАДНІ АЛІМПІЯДЫ.** Нацыянальны алімпійскі камітэт Беларусі быў створаны ў сакавіку 1991 года. За гэты час беларусы выступілі асобнай камандай на трох Алімпіядах, дзе атрымалі адзін залаты, восем сярэбраных і дзесяць бронзавых медалёў. Напярэдадні Алімпіяды-2000 жадаем поспехаў і перамог беларускім спартсменам.

Ужо вызначана група журналістаў для акрэдытацыі на летнія Алімпійскія гульні ў Сіднэі. У яе ўвайшлі Сяргей Гардзіенка ("Советская Белоруссия"), Віктар Харошка ("Народная газета"), Уладзімір Завадскі ("Спартыўная панорама"), Аляксандр Караблікаў (радыё "Бі-эй") і іншыя.

***

На чарговым пасяджэнні Аргкамітэта па падрыхтоўцы беларускіх спартсменаў да Алімпіяды ў Сіднэі міністр спорту і турызму Яўген Ворсін паведаміў, што беларусы заваявалі ўжо 145 алімпійскіх ліцэнзій. Усяго ж плануецца атрымаць 186.

Удзельнікам Аргкамітэта была прадстаўлена парадная форма нашых спартсменаў, якая пасля невялікіх заўваг зацверджана.

**СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА.** У нямецкім Котбусе на этапе Кубка свету па спартыўнай гімнастыцы зноў вызначыліся нашы землякі. У вольных практыкаваннях першае месца заняў Віталь Рудніцкі, трэцяе — Алена Палазкова. Тройчы падымаўся на п'едэстал гонару Іван Іванкоў: на кольцах і на кані ў яго — серабро, бронза — на пераkладзіне. У шасцёрку лепшых на брусах увайшла Таццяна Жарганава.

**АКАДЭМІЧНАЯ ГРЭБЛЯ.** Кацярына Карстэн прыняла ўдзел у рэгаце "Кубак Тэмзы". Дыстанцыю 6 тысяч метраў беларуская спартсменка перaадолела на 5 секунд хутчэй за сваю асноўную канкурэнтку немку Катрын Ручкоў.

**ПЯЦІБОР'Е.** З'явіўся шанс на алімпійскую ліцэнзію ў беларускага пяціборца Кірыла Чупрыса. На турніры, які прайшоў на Украіне, ён упэўнена замацаваўся на пятым месцы.



*Іван* ІВАНКОЎ. БелТА.

СІТУАЦЫЯ

# РАЗБУРАНЫ ХРАМ

**КОЖНЫ З НАС, АКРАМЯ АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧАЙ ВЕРЫ, БУДУЕ ХРАМ У САВЁЙ ДУШЫ. І КАБ ЁН СТАЯЎ НЕПАХІСНА, ТРЭБА ПРЫКЛАСЦІ ШМАТ НАМАГАННЯЎ. БЕЗ УНУТРАНАЙ СІЛЫ ДУХОЎНЫ САБОР МОЖА ЛЁГКА ПЕРАТВАРЫЦЦА Ў ЗАМАК НА ПЯСКУ.**

**З ЗАЛЫ СУДА**

**У Светлагорску быў абвешчаны прыгавор па справе расійскага грамадзяніна, беларуса па паходжанні Анатоля Сілівончыка.**

**Прысуд: тры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Аднак яшчэ год таму бізнесмен Сілівончык быў вядомы на Беларусі як мецэнат. Менавіта ён фінансаваў аднаўленне Крыжа Святой Ефрасінні Полацкай, дапамагаў манастырам. Праваслаўная царква адзначыла яго намаганні ордэнам Святога Уладзіміра III ступені...

І землякі Анатоля з вёскі Гамза Светлагорскага раёна, дзе, дарэчы, жыве яго маці, таксама атрымлівалі дапамогу. Сілівончык падарыў ім мікрааўтобус, фінансаваў будаўніцтва дарог на тэрыторыі сельсавета.

Як легенду расказвалі гісторыю пра пераправу праз сібірскую раку Об, дзе бізнесмен Сілівончык валодае парамамі. Ён ніколі не браў платы з беларусаў. І на Беларусі, асабліва ў родных мясцінах, яго чакалі.

Мінулым летам Анатоль прыехаў з Сургута з атрадам "Беркут" напярэдадні гадавіны з дня вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў. Атрад налічваў 125 чалавек рознага ўзросту. Мэта такога буйнога дэсанта з Сібіры была высакароднай: прайсці па мясцінах былых баёў, ушанаваць памяць загінуўшых. Раней гэта называлася патрыятычным выхаваннем...

...Захоп вёскі Мікалаеўка быў намечаны на 8 гадзін раніцы 30 чэрвеня. Сігнал — стрэл з ракетніцы — падаў сам Сілівончык. З некалькіх бакоў у вёску ўварваліся людзі ў чорнай форме, трымаючы ў руках зброю (гэта пазней стане вядома, што яна несапраўдная). На вуліцах узрываліся дымавыя шашкі, а байцы атрада "Беркут" пачалі паляванне на людзей...





грамадскага аналізу і сацыялагічных даследаванняў, адзначыў, што з 1995 года ў беларускім войску колькасць трагічных выпадкаў скарацілася ўдвая. У 1999-м у параўнанні з мінулым годам на 30 працэнтаў знізілася злачыннасць. У агульнай структуры праваларушэнняў у войску нестатутныя адносіны (праявы так званай "дзедаўшчыны") складаюць 10-12 працэнтаў, астатняе — крадзяжы, злоўжыванне службовым становішчам, грабяжы насельніцтва, што таксама ў значнай ступені звязана з неўладкаваным, бедным жыццём. Назіраюцца выпадкі (праўда, адзінкавыя) наркаманіі і алкагалізму. Абагульняючы дыскусію за "круглым сталом", Уладзімір Макараў заўважыў: "Я лічу, што сёння маральна-псіхалагічны стан беларускіх ваеннаслужачых дазваляе ім паспяхова выконваць баявыя задачы".

**Алена СПАСЮК.**



**На Даманаўскім палігоне пад Баранавічамі прайшлі тактычныя вучэнні войскаў проціпаветранай абароны з баявой стральбой. Вызначальнай рысай вучэнняў з'яўляецца адпрацоўка новых форм і метадаў барацьбы з паветранымі цэлямі праціўніка з улікам вопыту вядзення баявых дзеянняў у Югаславіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: экіпаж установкі "Шылка" пасля вучэнняў; радавы старшы аператар ЗСУ "Шылка" Сяргей БАЛЫШКОЎ; залп зенітна-ракетнага комплексу "Аса".**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



### З ЗАЛЫ СУДА

***Сведкі з мясцовага кіраўніцтва пацвердзілі, што праводзенне ваенна-патрыятычнай гульні накшталт "Зарніцы" не было раней абмеркавана. І пра магчымыя дзеянні атрада "Беркут" на чале з Сілівончыкам уладзе не ведалі.***

...Тры гадзіны працягвалася "аперацыя" ў Мікалаеўцы. На захопленым сельсаветам з'явіўся андрэеўскі сцяг, старшыня калгаса быў звязаны ва ўласным кабінеце, напалоханая бухгалтар плакала, прывязаная да крэсла. Затрыманых, якія супраціўляліся, білі прыкладамі, надзявалі на іх наручнікі.

Васьмігадовы Пеця Шышкін быў схоплены па дарозе да бабулі, прывязаны да дрэва, абсыпаны порахам. Яму пагражалі: спалім...

### З ЗАЛЫ СУДА

***Крымінальная справа была ўзбуджана па трох артыкулах: асабліва злоснае хуліганства, незаконнае пазбаўленне волі грамадзян, супраціўленне супрацоўнікам міліцыі. Пракурор запатрабаваў для Сілівончыка пакаранне — 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.***

...Арыштаваных жыхароў Мікалаеўкі (усяго каля 50 чалавек) зганялі на школьны стадыён, загадвалі легчы на траву тварам уніз і чакаць... Анатоль Сілівончык прымаў даклады байцоў аб праведзенай "аперацыі" і не звяртаў увагі на жанчын, якія плакалі і прасілі яго ўціхамірыць сваіх падначаленых.

### З ЗАЛЫ СУДА

***У ходзе следства пацярпелым жыхарам вёскі былі кампенсаваны маральныя і матэрыяльныя страты. Сяляне, хаця і давалі паказанні ў судзе, аднак адклікалі свае іскі. Праваслаўная царква накіроўвала хадайніцтва, каб падсуднаму ўтрыманне пад стражай замянілі на падпіску аб нявыездзе. Анатоль Сілівончык даваць паказанні адмаўляўся, зневажаў суд і яго супрацоўнікаў. На большую частку працэсу ён быў выдалены з залы і пазбаўлены апошняга слова. Выслухаўшы прысуд, Сілівончык не прызнаў сябе вінаватым і заявіў, што будзе шукаць справядлівасці ў вышэйшых судовых інстанцыях.***

...Сёння, праз дзевяць месяцаў пасля чэрвеньскіх падзей, у Мікалаеўцы працягваецца звычайнае жыццё. Вось толькі людзі, нягледзячы на кампенсацыі і суровы прыгавор Сілівончыку, усё-такі больш запомнілі яго пагрозы...

**Віталь ЛУКАШЭВІЧ.**

Мінск — Светлагорск — Мінск.

**ГАСЦЁЎНЯ**

***Музеяў у нашай краіне заўсёды было даволі многа, зараз іх колькасць таксама расце. Але ці шмат у іх наведвальнікаў?***

***"Музейны бум" пракаціўся па Беларусі 20 гадоў назад і рэзка пайшоў на спад на пачатку дзевяностых: прыток турыстаў з былых саюзных рэспублік у той час значна скараціўся, а адпаведных умоў для прыёму турыстаў з-за мяжы створана так і не было. Як выглядае справа сёння? На гэтае пытанне можа адказаць адзінае ў сваім родзе даследаванне "Работа музея з аўдыторыяй", праведзенае Беларускім інстытутам праблем культуры. Мы гутарым з загадчыцай кафедры музейнага праектавання БелІПК Алай СТАШКЕВІЧ.***

# НАЙБОЛЬШ РЭДКА МУЗЕЙ НАВЕДВАЮЦЬ ПАЛІТЫКІ

— Музей — гэта сацыяльны інстытут, які заўсёды існаваў і будзе існаваць у грамадстве. Мяняюцца толькі яго формы. Калісьці музеі былі падобныя на кунсткамеры, дзе захоўваліся розныя дзівосы. Пазней з'явіліся музеі-калекцыі, яны нагадвалі адкрытыя музейныя фонды. З цягам часу музеі становяцца больш папулярнымі, публічнымі. Сёння ў Беларусі каля 200 дзяржаўных музеяў, акрамя таго, кожны год з'яўляюцца 2-3 новыя музеі. Павялічваецца і колькасць наведванняў: летась яна дасягнула паказчыкаў "дакрызіснага" 1990 года — 3 407 тысяч чалавек.

**— Якія тэндэнцыі вызначаюцца ў развіцці сучасных музеяў?**

— Зараз у музей ідзе ў асноўным мясцовы жыхар, і, канешне, паслугі ў выглядзе адной агляднай экскурсіі яго не задавальняюць. Таму выставачная дзейнасць музеяў значна актывізуецца: калі ў 1990 годзе яны правялі 733 выставы, то ў 1998 — ужо 1 562.

Акрамя таго, у рэспубліцы амаль не існуе спецыяльных праграм па рабоце з індывідуальнымі наведвальнікамі, а іх 57 працэнтаў ад агульнай лічбы.

Яшчэ адна тэндэнцыя — амаладжэнне музейнай аўдыторыі. Музеі зараз пачынаюць працаваць з дзецьмі з трохгадовага ўзросту.

**— Усё гэта патрабуе і новых форм работы!**

— Абавязкова. У многіх музеі асацыіруюцца са сховішчам старых рэчаў, дзе пануе страшная нудота. Канешне, музеі імкнуцца змяніць гэты стэрэатып, як мага лепш адаптавацца ў сучасным грамадстве і знайсці агульную мову з наведвальнікам. Так, музей можа станавіцца адначасова канцэртнай залай. Напрыклад, у Сафійскім саборы рэгулярна праводзяцца арганныя вечары. У Полацку ёсць таксама музей-бібліятэка: тут можна не толькі агледзець музейныя каштоўнасці, але і пагартаць кнігі XVII — XIX стагоддзяў. Некаторыя музеі выконваюць і клубныя функцыі: у іх сценах працуюць разнастайныя гурткі.

**— А сучасныя тэхналогіі музеямі выкарыстоўваюцца?**

— З-за недахопу сродкаў мы пакуль не можам сабе гэтага дазволіць, хаця многія наведвальнікі аддаюць перавагу экскурсіі з аўдыёгідам і выкарыстанню камп'ютэра для атрымання дадатковай інфармацыі аб музеі і яго экспанатах. А, напрыклад, 10 працэнтаў апытаных выказалі жаданне мець доступ да музейных каштоўнасцей праз свой персанальны камп'ютэр. Я ўжо не кажу пра поліэкраны і галаграфію. Але з цягам часу ўсё гэта ў нашых музеях з'явіцца.

**— Вы можаце намаляваць сацыяльны партрэт сучаснага наведвальніка беларускага музея?**

— Сярод апытаных прыкладна 65 працэнтаў — мясцовыя жыхары. Асноўная ўзроставая група — моладзь да 17 гадоў. Было зафіксавана: чым вышэй адукацыя, тым часцей чалавек прыходзіць у музей. Найбольш актыўныя наведвальнікі — работнікі асветы і культуры. Радзей за ўсіх ходзяць у музей палітыкі — 0,3 працэнта ад апытаных.

**— Наколькі разнастайная тэматыка беларускіх музеяў?**

— Асноўнае месца тут займаюць краязнаўчыя музеі — іх 60 працэнтаў. Хаця сёння яны звяртаюць увагу не на чыстае краязнаўства, а на культуру рэгіёна ў цэлым. Пасля ідуць гістарычныя, мастацкія і літаратурныя. Менш за ўсё прыродазнаўчых і экалагічных музеяў. Дарэчы, у Акадэміі навук існуе музей, дзе захоўваюцца рэчы, вывезеныя з чарнобыльскай зоны.

**— Ці адпавядаюць стандартам умовы захавання экспанатаў у нашых музеях!**

— Ніводнага спецыялізаванага фондасховішча ў нас няма, а ў памяшканнях, дзе знаходзяцца экспанаты, вільготнасць часта дасягае 60—80 працэнтаў! Акрамя таго, толькі палова экспанатаў прайшла навуковую інвентарызацыю. Гэта таксама праблема, і яна часткова ўпіраецца ў кваліфікацыю кадраў: вышэйшую адукацыю маюць 63 працэнты музейных работнікаў і толькі 5 працэнтаў — спецыяльную музеялагічную.

**— Як папаўняюцца музейныя фонды!**

— Рознымі шляхамі: праз гісторыка-этнаграфічныя экспедыцыі, аўкцыёны, сумесную работу з археолагамі, закупку ў калекцыянераў і антыкватаў.

Сёння нават не верыцца, што яшчэ дзесяць гадоў назад старажытныя рэчы музеям проста дарылі. Вёскі так збяднелі, што тымі ж посцілкамі і ручнікамі бабулькі хутчэй будуць карыстацца самі... З другога боку, продаж гэтых рэчаў становіцца выгадным бізнесам, асабліва ў Расіі. Напрыклад, гадзіннік пачатку XIX стагоддзя каштуе там 15—20 тысяч долараў, у нас яго можна купіць за 3—5 тысяч. Але і такіх грошай у музеяў няма.

**— У якім стане знаходзіцца справа вяртання музейных каштоўнасцей!**

— Гэтая праблема пастаўлена на міжнародны ўзровень, і Беларусь ужо падпісала адпаведныя канвенцыі ЮНЕСКА.

Рэстытуцыя можа быць праведзена і намаганнямі Міжнароднага савета музеяў: звесткі пра прапаўшы экспанат размяшчаюцца ў Інтэрнэце, СМІ, спецыяльных бюлетэнях, і калі ён "выплыве" недзе на аўкцыёне, яго лёгка можна выявіць. Але каб увайсці ў гэты сусветны каталог, мы спачатку павінны стварыць свой агульнанацыянальны.

Але праблема рэстытуцыі носіць у Беларусі больш глыбокі характар: на працягу нашай гісторыі з краіны вывезлі вельмі многа музейных каштоўнасцей, якія ўжо аселі за мяжой і зафіксаваны як іх уласнасць! Гэта можна сказаць пра Дзяржаўны гістарычны музей у Маскве, Музей этнаграфіі ў Санкт-Пецярбургу і многія іншыя. Фіксацыяй і выяўленнем экспанатаў займаецца навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, але на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі такога няма. Шчыра кажучы, я і не спадзяюся, што гэтыя рэчы можна вярнуць. Хаця ёсць "мяккая рэстытуцыя" — калі мы зможам іх пабачыць дзякуючы выставам, альбомам і копіям. Дарэчы, у Брэсце адкрыты музей выратаваных каштоўнасцей, якія былі затрыманы на мытні.

**— Ці ёсць у Беларусі прыватныя музеі!**

— Закон "Аб музеях" прадугледжвае магчымасць іх стварэння. Многія, напэўна, ведаюць музей матэрыяльнай культуры ў Дудутках. Хаця, на маю думку, ён больш падобны на своеасаблівы Дыснэйлэнд. З другога боку, дзяржаўным музеям трэба павучыцца такому правядзенню музейных атракцыёнаў, бо многія ідуць у музей менавіта каб адпачыць.

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**Структура музейнай аўдыторыі па сацыяльнаму становішчу**



 

# МАРАЙ І РЭАЛЬНАСЦЮ

яго папярэднікі ілюстравалі свае ўяўленні пра будучыню, некрытычна ацэньваючы перспектывы чалавецтва, то К. Крапіва пры дапамозе фантастыкі стварыў люстра, у якім яскрава і непрыхавана адбіліся ўсе заганы, уласцівыя людзям і грамадству, у якім жыў пісьменнік. Прадметам беларускай фантастыкі стала асоба чалавека, нашага сучасніка, грамадства, у якім ён жыве, перспектывы яго развіцця з пазіцый дня сённяшняга.

Усё гэта знайшло праяўленне ў беларускай фантастыцы 80-х — 90-х гадоў, у перыяд новага абуджэння цікавасці пісьменнікаў да фантастычнай плыні. Да фантастыкі звярнуліся як пісьменнікі-пачаткоўцы, так і вопытныя аўтары. Крызіс грамадства, расчараванасць у магчымасцях НТР, чарнобыльская катастрофа знайшлі сваё адлюстраванне ў іх творах. Новая, раней невядомая інфармацыя пра тое грамадства, у якім мы жывём, якое пабудавалі, абудзіла грамадскую думку. Шэраг пісьменнікаў звярнуўся ў сваёй творчасці да феномена таталітарызму. Напрыканцы 80-х — у пачатку 90-х гадоў узнікае беларуская антыутопія. У 1988 годзе ўбачыла свет фантастычная аповесць В. Гігевіча "Карабель", у якой аўтар стварыў мадэль таталітарнага грамадства на абмежаванай прасторы касмічнага карабля. Усё жыццё людзей на караблі падкантрольнае, падпарадкаванае неакрэсленай мэце, да якой імкнецца карабель, а на самай справе — групе нікому невядомых людзей, якія кіруюць экіпажам пры дапамозе жаху і подкупу, свядома ўтойваюць і скажаюць інфармацыю, каб усяго не ведаў ніхто, апрача іх саміх, бо веды — першы крок да свабоды. Гэта карабель-турма для нязгодных, для тых, хто адважыўся мець уласную думку. Гэты ж вобраз таталітарнага грамадства як турмы, пасткі для чалавека распрацоўвае В. Гігевіч і ў аповесцях "Марсіянскае падарожжа", "Пабакі", "Не забывай пра дом свой, грэшнік". Арыгінальным як па зместу, так і па форме з`яўляецца мікрараман "Праўдзівая гісторыя Краіны Хлудаў" А. Мінкіна, яшчэ адзін узор антыутопіі. З ironіяй і прыхаваным болем пісьменнік малюе краіну за Высокім Парканам, якая ўзяла для жыцця толькі звод правілаў і прымус, адрынуўшы культуру, памяць, душу, і згінула дашчэнту ў пажары. Да антыутопіі звярталіся А. Федарэнка, У. Клімовіч, Л. Дайнека, М. Матукоўскі, якія ў сваіх творах імкнуцца перасцерагчы людзей ад таго, да чаго можа прывесці неабачлівасць, няўменне ўбачыць розніцу паміж сапраўднай і штучнай свабодай, мяжу паміж воляй і ўседазволенасцю, нежаданне пераадолець абыякавасць і неразборлівую памяркоўнасць.

Навуковая фантастыка таксама не застаецца па-за ўвагай. Але зараз гэта не ўсхваленне навукі як сродку дасягнення шчасця, а цвярозы роздум пра наступствы НТР як для асобных людзей, так і для ўсяго чалавецтва. Навуковае дасягненне можа выступаць як сродак ацэнкі маральнасці людзей, якія ім карыстаюцца, як у камедыі М. Матукоўскага "Мудрамер", або стаць тым люстэркам, у якім яго стваральнік убачыць самога сябе ў сапраўдным свеце, як у апавяданні Г. Багданавай "Цымкалоід "Мадлен", або ўвогуле сваё грамадства, цывілізацыю, як у рамане В. Гігевіча "Кентаўры".

Спакойнае стаўленне грамадства да рэлігіі, містыкі, паранармальных з`яў як бы зняло нявыказаную забарону на стварэнне фантастычных твораў такога плана. У рамане У. Рубанава "Не аднойчы забіты" сілы, варожыя галоўнаму герою, увасабляюцца ў вобразе жанчыны Нямілы, што знаходзіцца па-за нашай рэчаіснасцю і змагаецца з людзьмі, імкнецца забіць у іх душах чалавечы, творчы пачатак. Герой аповесці В. Чаропкі "Геній смерці" адкрывае ў сабе здольнасць забіць чалавека праклёнам, словам і імкнецца выкарыстаць такое ўменне, каб узвысіцца, набыць уладу і багацце, хаця зусім не ў гэтым сапраўднае ўзвышэнне, выключнасць. Герой аповесці А. Федарэнкі "Сінія кветкі" пры дапамозе сініх кветак, што выраслі на магіле бацькоў, здзяйсняе помсту здрадзіўшай яму дзяўчыне. У аповесці В. Гігевіча "Палтэргейст" душа ненароджанага дзіцяці, што пасялілася ў бяздзетнай сям`і ў выглядзе гарэзлівага "шумнага духа", сцвярджае сваё права з`явіцца на свет, бо без дзяцей сям`я не сям`я.

Даволі шырокае распаўсюджанне ў беларускай літаратуры набыла прыпавесць з глыбокім філасофскім зместам. Да яе звярталіся Я. Сіпакоў у зборніках "Тыя, хто ідуць" і "Падары нам дрэва", П. Васючэнка ў зборніку "Белы мурашнік", В. Чаропка ў зборніку "Перамога ценю". Да такіх прыпавесцяў можна аднесці "Кароткія антыутопіі" А. Мінкіна, апавяданне В. Гігевіча "Дзяўчына з сунічнай дзялянкі", казкі В. Якавенкі. Усе гэтыя творы прасякнуты любоўю да чалавека, занепакоенасцю яго лёсам, ідуць да нас з глыбінь народнай душы, ад крыніц нацыянальнай культуры.

Беларуская фантастыка жыве, непадобная да іншых, абумоўленая той культурай, якая яе спарадзіла. Стрыманая, задуменная, прасякнутая любоўю да чалавека і свету, крыху сумнавата-іранічная, гаворыць яна з людзьмі сваім непаўторным голасам. Разнастайнасць тэматыкі, форм сведчыць аб багацці фантазіі аўтараў, аб прыдатнасці для фантастычнага ўвасаблення арыгінальнага беларускага матэрыялу. Большасць твораў напісана на сусветным узроўні і не саступае замежным узорам. Досыць прыгадаць першы беларускі трылер "Каханка д`ябла, або Карона Вітаўта Вялікага" М. Клімковіча і М. Шайбака (Адамчыка), якая не саступае ў напружанасці дзеяння і займальнасці сюжэту найлепшым узорам гэтага жанру, а па глыбіні думкі, актуальнасці тэмы па праву далучаецца да вялікай літаратуры. Беларуская фантастыка развіваецца як паўнацэнная плынь беларускай літаратуры і з цягам часу знойдзе належнае прызнанне як у чытачоў, так і ў крытыкаў.

**Галіна БАГДАНАВА**

# ЦЫМКАЛОІД «МАДЛЕН»

**ФАНТАСТЫЧНАЯ ПРАЎДА**

схільнага да ангіны сына-вундэркінда чытаць Талстога, Дастаеўскага ці Купалу. Затое іх Юра з сямі гадоў выдатна гуляў у шахматы і амаль, як бацька, гаварыў па-англійску. Цяпер прачытаў у арыгінале ледзь не ўсю Агату Крысці. З восені ўзяўся за японскую мову. Праўда, часова давялося яе адкласці. Студэнты запатрабавалі выкладаць па-беларуску. Але цяпер і тут усё будзе ў норме. Пайшоў у тэатр — знайшоў Кацярыну. Будучая настаўніца. Кніжкі прыносіла. "Чорны замак Альшанскі", "Дзікае паляванне караля Стаха"... Ну і само сабою, моўная практыка... Напісаў па-беларуску курс лекцый. Цяпер зноў можна вяртацца да навуковых часопісаў, фантастыкі і дэтэктываў. Яшчэ ў школе, перапісваючы са шпаргалак сачыненні, ён зразумеў: у сучаснай, не кажучы пра класічную, літаратуры не знойдзеш таго, што ёсць у жыцці. Скончыўшы фізіка-матэматычную школу з залатым медалём, а універсітэт з адзнакай, заўсёды давяраў толькі лічбам і дакладнаму разліку. Нават з бацькамі летась размяняўся, каб не парушаць свой сутачны расклад (у шэсць — бег, у сем — сняданак, у восем — на працу, у бібліятэку, затым вячэрняя, па жаданні начная праграма). Цымкалоід, гэты цудоўны вынік утрапёнае, карпатлівае працы, яшчэ больш зэканоміць час. Але назваць яго трэба як-небудзь прыгожа... Напрыклад, "Мадлен". Юра ажно заўсміхаўся сам сабе ад такое дарэчнае згадкі. Сапраўды, справа пайшла на лад, калі летась у Ялце ён пазнаёміўся з Мадлен. Гэта гучыць: цымкалоід "Мадлен". Чароўная, палкая, нястрымная Мадлен. Ад яе няўрымслівай вынаходлівасці нават яго, вопытнага мужчыну, кідала ў сорам.

Юра падняўся на локці, націснуў на клавіш цымкалоіда і набраў тэлефон. На экране адразу з`явілася аголенае круглае плячо, знаёмы блакітны пеньюар. Мадлен, як і ён, песцілася, толькі не на канапе — у разасланым ложку. Залачоны, старога фасону тэлефон стаяў побач, толькі руку працягні, на крэсле. Ён надрываўся, званіў. А Мадлен быццам не чула. Раўняла пілачкай пазногці і нешта мармытала сабе пад нос. Толькі зразумеўшы, што тэлефон не сціхне, здалася... Яе рука павольна адкінула за спіну чорныя валасы і, па локаць вылузнуўшыся з празрыстага рукава, пацягнулася да трубкі...

— Алё-ё... — прамовіла Мадлен вальяжна.

— Мадлен? Салют! Гэта я. Чым займаешся?

— На кухне убираю, — яна пазяхнула. У тэлефоне гэта было падобна на ўздых.

— Стамілася, мая бедная кошачка? Можа, пад`ехаць дапамагчы?

Мадлен, вядома, не адчула іроніі.

— Нет-нет, сегодня не надо. Сегодня я буду спать. Завтра, котик, позвони. — Мадлен павярнулася да дзвярэй, і Юру падалося, што гэта яму адрасаваны яе звыкла юрлівы, насмешлівы пагляд.

— Добра. Тады да заўтра?

Юра націснуў на тэлефонны рычаг, але клавіш цымкалоіда не адпускаў. І таму, як і Мадлен, пачуў раптоўны выбух джазу. Мадлен кінула трубку, сцепанулася. У кватэры яшчэ нехта быў. І гэты нехта ўключыў магнітафон. Нарэшце дзверы адчыніліся. Вусаты, з каламутнымі п`янымі вачыма бамбіза... у плаўках. Мадлен стала на калені і расхінула пеньюар...

— Коцік, — зашапацела яна. — Ходзь, ходзь да свае мусьці...

Відэа не перадавала рэзкага салодкага паху парфумы, паху поту і плоці. Але менавіта гэты пах літаральна захлынуў і пачаў душыць Юру. Юра яшчэ з першых замежных паездак не любіў глядзець парнафільмы. Да таго ж Мадлен паўтаралася. І з ім, з гэтым бамбізам паўтаралася...

Разам з экранам патухла і яшчэ колькі хвілін назад вабная і жаданая, а цяпер далёкая і халодная, як зорка з чужога сусвету, Мадлен... Усё ж маці мае рацыю, ён, Юра, дасюль так і не навучыўся разбірацца ў жанчынах. А яшчэ пацвельваў з хлопцаў: як не брыдка мець на двух адну каханку... У душы перасела жорсткая спусцеласць.

Несупынны, даволі гучны тэлефонны гудок не адразу дайшоў да ягонай ашаломленай свядомасці. Толькі цяпер Юра заўважыў, што дасюль трымае ў руках трубку, і яшчэ раз крануўшы клавіш, набраў першае, што прыйшло ў галаву. І трапіў да аднакурснікаў Лазерскіх. Падышла, ды не, падскочыла Анюта...

— Алё, — весела гукнулі і вывелі нарэшце яго з утрапення знаёмыя пекныя вусны.

Юра ледзь стрымаўся, але не адказаў. Калі ж Анюта, паціснуўшы плячыма, паклала трубку, літаральна прыпаў да экрана. Анюта, круглявая, ружовашчокая, была ў сваім любімым белым, у дробны сіні гарошак халаціку. Цяпер яна яго носіць у хаце, а яшчэ гадоў дзесяць назад, калі ездзілі ў Гурзуф збіраць вінаград і табаку, бегала ў ім на "спадарожнікаўскі" пляж. Тады Мішэль са сваёю гітарай і песнямі, якім, ці бачыш, не хапала дзявочага голасу, адбіў Анюту ў Юры.

Анюта нахілілася да люстэрка, перавязала хвосцік, здзьмухнула з ілба цяпер зусім беленькую, мусіць, падфарбаваную грыўку і, смешна скасіўшы вочкі, пацалавала свой адбітак. У пакоі заплакаў малы. І яна, на хаду расшпіліўшы халат, прымасцілася на крэсле яго карміць. Юра ніколі не бачыў, як жанчына корміць немаўля. Толькі ў кіно. Хоць і цяпер — хіба гэта не кіно? Кіно з чужога жыцця... Юра нервова пачухаў падбароддзе. Зноў пачыналася алергія. Ці то ад новае электрабрытвы, ці то ад адэкалону, які падарыла Мадлен. Юра выйшаў у калідор, закурыў.

Калі вярнуўся, Анюта соўгала па падлозе калыску і спявала. Хораша, пяшчотна. Сам Юра не ведаў ніводнае калыханкі. І гэтую чуў упершыню:

— Ходзіць бай па сцяне,
У чырвоным каптане...
Баю, бай...

Рэзкі тэлефонны званок паласнуў па экране ліловымі маланкавымі паскамі. І па-за Юравай воляй усплылі цемнач, завея, асветлены на час размовы таксафон ля паштамта. Юра нервова затушыў у жалезнай грузінскай попельніцы цыгарэту...

Зноў Каця. Трэці дзень звоніць. То з дому, то вось так з вуліцы. Няўжо не зразумела, што раз ён, Юра, паабяцаў і не пазваніў, значыць, усё. Навошта гэтыя дзяцінныя гульні. Лепш бы футра сабе новае купіла. А то і з экрана відаць, што штучнае карычневае з белаю, не ўжо з шэраю на капюшоне і манжэтах аздобаю футра выцерлася, і гузікі ледзь трымаюцца... Юра рэзка аблізнуў ссохлыя ад курыва вусны. Шкада, што цымкалоід не мае зваротнай сувязі. Выслухала б Каця ягоную водпаведзь і знікла з далягляду. Можна, вядома, было б усё выказаць пры сустрэчы. Але ў яго сёння зусім няма настрою сустракацца з ёю. Яму хочацца расслабіцца і адпачыць. Выпіць, адзін не вып`еш. Мадлен змадленілася... А Каця, гэтае наіўнае дзяўчо з шырока расплюшчанымі журлівымі блакітнымі вачыма і смешным кірпатым носікам, нават каб хацела, яе не заменіць. Кацярыну цягне да сур`ёзных размоў. І песціцца, лашчыцца, як сляпое кацяня... Увогуле, ён, Юра, пасля таго як Анюта здрадзіла яму з Мішэлем, перастаў верыць жанчынам. А Каці ён нічога не вінен. Нічога не абяцаў. Ну схадзілі ў Купалаўскі тэатр, у госці пару разоў прыехала. І яму, і ёй было з кім пагаварыць па-беларуску. А яна, дзівачка, усё ўсур`ёз. Вершаў цэлы сшытак прынесла.

Провад з нерваў
звіваю ізноў,
Каб хоць раз да душы
дазваніцца.
Свечкай кволай згараю...
Замова...
Апёк. Навучы яго сэрца
біцца...

Як апошні лісток ад дрэва,
Ад вас адрываюсь з адчаем,
Па табе я ўся зжаўцела,
Так вясна бясконца
імчалась...

Так вясна бясконца імчалась,
Прайшло лета, не стаяў
снег.
Хмара кропляй дажджу
абцяжарылась,
Як вы мной, мілы мой
чалавек...

Колькі разоў ён, Юра, паўтараў Каці, што вершы на яго абсалютна не дзейнічаюць.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

(Пачатак на 6-й —7-й стар.).

Цяпер хочаш не хочаш сядзі, глядзі бясплатнае кіно.

Каця, не дачакаўшыся адказу, выняла з аўтамата, схавала двушку, пайшла ўздоўж паштамта. У руцэ — напакаваная дарожная сумка. Мусіць, зноў напякла дранікаў, склала ў каструлю і, каб не застылі, загарнула газетамі і ручніком. Зараз, як і ўчора, пакружляе вакол паштамта і вернецца да таго самага таксафона — ён ці не адзіны ў горадзе цёплы, ды яшчэ і светлы. Але не. Зірнуўшы на гадзіннік, як схамянулася, — падземны пераход, метро... Каля Палаца мастацтва перасела на трамвай.

Нарэшце Юра зразумеў: Каця едзе ў політэхнічны, дзе па панядзелках (і памятае ж!) па свежым снежным цаліку да пад`езда. Зноў прыцемак, жаўтлявыя рэдкія лямпачкі. Замест таго каб сесці ў ліфт, падымаецца пешкі. На лесвічнай пляцоўцы нейкая пара, у параўнанні з ім, Юрам, зусім яшчэ падшыванцы, высвятляюць адносіны. Ён: "Я ж цябе папярэджваў, ты ў мяне не першая..." Яна: "А якая я ў цябе, трынаццатая?" — нацягнута ўсміхаецца.

Каця ўсё чуе, разы са тры звоніць, чакае, уздыхае і тупае ўніз. Выйшла з пад`езда і... паслізнулася, упала. Недарэчна дзынкнула, ляпнула накрыўка каструлі. У сумцы і праўда, мусіць, дранікі...

Юра балюча сціснуў рукі. Ён быў ужо гатовы кінуцца на вуліцу, нават падняўся з канапы... Не здагадаўся, што дастаткова запаліць святло, і Каця выбраў мяне? Я ж табе хацела толькі дабра. Ты ж сам казаў, што я табе падабаюся. Казаў, каб раней сустрэў, узяў бы за жонку. І я думала, здолею табе дапамагчы... Табе цяпер трэба каго-небудзь пашкадаваць. Абавязкова. У сваёй паняверцы ты счарсцвеў душою. Табе апрыкла не я, а ўсё жывое натуральнае жыццё. Ты зацыклены на лічбах і здольны адгукацца толькі на штучнае, кідкае і фальшывае... Але ж яно фальшывае...

Нарэшце Каця мінула самую страшную ў іхнім раёне заснежаную пустку ля новабудоўлі. Спыніла таксі. Таксіст, які, мусіць, бачыў, як хадзіла яна туды-сюды, уздыхнуў:

— Зусім вы сябе не шкадуеце...

А Каця, бы не чуўшы, стаілася ў куточку на заднім сядзенні і

**Галіна БАГДАНАВА**

# ЦЫМКАЛОІД «МАДЛЕН»

**ФАНТАСТЫЧНАЯ ПРАЎДА**

ён вёў факультатыў. У вячэрнікаў толькі пачаліся заняткі, і вокны свяціліся ліловым блакітам. Каця пацягнула на сябе важкія празрыстыя дзверы і, упусціўшы з вуліцы імгненна пераўтвораныя ў пару холад і снег, пайшла доўгім, асветленым з высокай столі ўсяго дзвюма мутна-жоўтымі лямпачкамі, калідоры. Ледзь разбіраючы прыступкі, лесвіцаю мінула купку курыльшчыкаў. У актавай зале, мяркуючы па музыцы, рэпеціраваў танцавальны ансамбль. Вось і ручка іхняй аўдыторыі. Замкнёна. Зноў лесвіца, калідор, цяжкія дзверы. Захінаючыся ад завеі, Каця пешкі рушыла да метро, перасела на аўтобус. Юра з прыкрасцю ўздыхнуў. Зараз будзе тут.

Вось выходзіць на ягоным прыпынку, падымае вочы да вокнаў. Трэба патушыць святло, зацягнуць шторы, затаіцца. А Каця ўжо ля магазіна, пад ліловым ліхтаром, у незашклёнай тэлефоннай будцы. У іхнім раёне яшчэ не прыладзілі таксафонаў. Здымае рукавічку, кладзе двушку, сцягвае капюшон, прыкладае настылую чорную трубку да вуха. Паставіла сумку, набрала нумар. Зноў наструнілася, слухае...

З першага ж званка Юра ўхапіў трубку, з насцярогаю дачуўся, як аўтамат праглынуў двушку, але як і збіраўся, не вымавіўшы ні слова, націснуў на рычаг. Каця зноў доўга шукала ў кішэні двушку, набірала неслухмянымі з марозу пальцамі нумар.

— Алё, алё, гэта я... — прагаварыла яна ахрыплым голасам насустрач маўчанню.

Юра адчуў: да горла падступаюць словы, але, зноў нічога не вымавіўшы, паклаў трубку. Каця, збянтэжаная, страпянулася. Доўга прыглядалася да вокнаў. Потым рашуча зарыпела зразумела б, што ён дома, пераззваніла. І тады не давялося б нават выходзіць на мароз. Толькі падымі трубку і адкажы. Але гэтае простае рашэнне не прыйшло ў разумную Юраву галаву.

Каця, няўклюдна абапершыся рукою на сумку, паднялася, апошні раз зірнула ўверх да цёмных вокнаў і, кульгаючы, пайшла да аўтобуснага прыпынку. Але паехала не дамоў, на канечную. Юра зразумеў, яна сёння не адступіцца. Проста вырашыла пагрэцца. Аўтобус абязлюдзеў, і пакуль шафёр хадзіў адзначацца, у салон набегла холаду. Кацін капюшон заінеў. А яна смыкала чырвоным, ды не, нават ужо ліловым носікам, кусала бледныя, патрэсканыя да крыві вусны і плакала. Яна супакоілася толькі, калі, слізгануўшы позіркам па ягоных вокнах, зноў зайшла ў тэлефон-аўтамат. Ліхтар патушылі, і лічбы было ледзь разабраць. Яна званіла не двушкаю, дзесятачкай. Зноў, зацяўшы дыханне, слухала, слухала доўгія гудкі.

Але Юра не ўзяў трубкі. Ён толькі выйшаў на кухню і закурыў. Нязнаны жаль падступіўся да горла. Каб жа Каця была не Каця, каб шукала не яго, а каго іншага, выйшаў бы, супакоіў, правёў. А так... Калісьці ж трэба канчаць. Няхай думае, што ён, Юра, жорсткі, злосны чалавек. Можа, ёй будзе лягчэй забыцца. Ён, Юра, не створаны для такіх, як Каця.

А з відэа пачалі прасочвацца думкі. Ці гэта Каця гаварыла ўслых? Плакала і шаптала:

— Юрась, Юрась... Што ты з сабою робіш... Я разумею, з табою ўсе вельмі жорстка абыходзіліся. Ты расказваў. Бацькі білі. Жанчыны здраджвалі. Цяпер, каб самасцвердзіцца, табе трэба хоць каму адпомсціць. Але завошта ахвяраю ты засяроджана дыхала, саграбала рукі...

Юра націснуў на клавіш, і экран патух. Але цяпер ён ужо не мог заставацца сам-насам з сабою... І зноў набраў тэлефон Лазерскіх. Анюта песціла яго шчаслівага саперніка Мішэля. Той, паклаўшы сваю кучаравую светлую галоўку ёй на калені, выцягнуўся на канапе...

Ходзіць бай па сцяне,
У чырвоным каптане...
Баю, бай...
Баю, бай...

Юра як праваліўся, заснуў... І не пачуў яшчэ аднаго званка. Ён ніколі не сніў каляровых сноў. А тут... Смарагдавая хвалістая трава, і па ёй шапатлівыя, шматколерныя жывыя кветкі. З пялёстка на пялёстак паракочваюцца расінкі. Пахне медуніцаю і суніцамі. Ён, Юра, шукае пунсовыя ягады. А побач нехта, як першым крокам, радуецца кожнай ягонай знаходцы, шчаслівы ягоным шчасцем. Жывая рука пяшчотна праводзіць яму па твары, шыі, плячы...

Юра прахапіўся... Зазвінела шкло. У экране свяцілася дзірка. На падлогу ссыпаліся акрываўленыя шкельцы. Спалатнелы, ён агледзеў сваю далонь і выпадкова націснуў на клавіш магнітафона. Той зашаптаў: "Не бойся... Мяне больш няма... Не бойся, мяне больш няма..."

Юру падалося, нейкі ценкі жудлівы прывід сноўдаецца ў барвовым прыцемку пакоя. Ён падхапіўся, адсунуў шторы і заплюшчыўся. Да мігатлівага карункавага шкла прыпаў і рассыпаўся шматколернымі самацветамі-бліскаўкамі ружовы марозны ранак. Скрозь калючы дыяментавы ўзор больш нічога не было відаць.

**СТОП-КАДР**




*Гэтага "дракончыка" выгадавалі віцебскія школьнікі.*

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА**

## «ПЕЧ, ПЕЧ, ПАМАЖЫ!»

Светаўспрыманне нашых продкаў было прасякнута верай у незвычайныя магчымасці не толькі жывых істот — звяроў, птушак, але і розных неадушаўлёных прадметаў. Напрыклад, шмат вераванняў і ўяўленняў звязана з печчу.

Печ займае пачэснае месца ў доме, з'яўляецца яго своеасаблівым цэнтрам. Не выпадкова менавіта ў печы або ў падпечны жыве дамавік — добры дух дома, які клапоціцца пра дабрабыт і здароўе сям'і. Асаблівая павага да печы падкрэсліваецца забаронай ужываць "у яе прысутнасці" грубыя або непрыстойныя словы: "Няможна так казаць, бо печ у хаце", "Сказаў бы, ды печ у хаце".

Адносіны да печы як да жывой істоты праяўляюцца і ў вясельнай абраднасці. Так, збіраючыся ехаць у сваты да дзяўчыны, сваты дакранаюцца да печы ў сваім доме: каб яна ім дапамагла. А зайшоўшы ў хату нявесты, крыху затрымліваюцца каля печы і ціхенька просяць: "Печ, печ, дапамажы". Толькі пасля гэтага сваты пачыналі перамовы з бацькамі дзяўчыны. У некаторых вёсках Гомельшчыны і цяпер існуе старадаўні звычай: маладая на другі дзень пасля вяселля беліць печ у хаце маладога. Гэтым яна імкнецца "задобрыць" печ, наладзіць адносіны з ёю, а значыць — з новай сям'ёй.

Печ успрымалі таксама як надзейную ахову ад хваробы і смерці. Існавалі такія парады: пры ўваходзе ў хату, дзе знаходзіцца хворы, трэба перш за ўсё зірнуць на печ, і хвароба ў такім выпадку не прыстане. Пасля вяртання з могілак удзельнікам пахавальнай працэсіі неабходна было пагрэць рукі перад пячным агнём, "каб смерць праз комін пайшла".

Усходнім славянам вядомы таксама звычай "запякання" дзяцей у печы. Слабых і хворых дзетак захутвалі ў коўдру і адразу пасля таго, як пагас агонь, клалі на некаторы час у печ. Лічылася, што пасля гэтага яны набудуць сілу і здароўе.

Да сённяшняга часу захаваўся звычай перад ад'ездам з дому зачыняць юшку ў коміне і прыкрываць засланкай печ: раней лічылася, што праз комін розная нечысць можа трапіць у жыллё чалавека.

Часам злыя людзі — чараўнікі і ведзьмы — таксама выкарыстоўвалі печ у сваіх нядобрых справах: чараўнік браў зямлю з таго месца, дзе прайшоў чалавек, прамаўляў над следам закляцце, збіраў замоўленую зямлю ў мяшочак і вешаў яго ў комін. Лічылася, што па меры высыхання следу ў коміне будзе сохнуць (хварэць) і той чалавек, у якога чараўнік "вынуў след". Праўда, такой жа зброяй змагаліся і з самімі чараўнікамі і ведзьмамі.

Падрыхтавала
**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

**ЗАГАДКІ Станіслава ВАЛОДЗЬКІ**

**Начной парою**
**З даўніх пор**
**Гарыць вялікі**
**Светлафор.**
**Ды толькі жоўтым**
**Свеціць ён нам.**
**Калі ж пачне**
**Гарэць зялёным!**
*(Поўня).*

* * *

**Што пачаў малоць зноў млын,**
**Болей радасна малым.**
**Сталі ўсе яны ў двары**
**У муцэ, як млынары.**
**Не загнаць дамоў іх зноў.**
**Не спячы з мукі бліноў.**
*(Снег).*

* * *

**З табой ён днём пагожым, —**
**Без сонца жыць не можа.**
**За хмарку сонца зойдзе —**
**Знікае ён, як злодзей.**
*(Твой цень).*

* * *

**Хто ясналікі,**
**Шмат'языкі.**
**Ламачча есць —**
**Расце вялікі!**
*(Касцёр).*

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 13**

**1. Капеж.**
**2. Дол.**
**3. Дзьмухавец.**
**4. Агародніна.**
**5. Галіна.**
**6. Яр.**

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльны карэспандэнт Нэлі ПРЫВАЛАВА.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 1015.
Падпісана да друку 17.4.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).